# Як адбываюцца выбары ў Беларусі

## *ці тры гісторыі з жыцця назіральніка за выбарамі*




Паводле вынікаў назірання за выбарамі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусі 23 верасня 2012 году ўдзельнікаў праекту

**"Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка"**



www.eotp.info
ELECTION OBSERVATION
THEORY & PRACTICE

***Назіральніца Лена П.:***

«У Беларусі ёсць такая цудоўная забава, як датэрміновае галасаванне. Яно доўжыцца тыдзень і ладзіцца для тых, хто па нейкай прычыне не можа прысутнічаць у асноўны дзень. Прычыны гэтыя тлумачыць не трэба – ты проста прыходзіш і галасуеш.
„Што дрэннага?“ – спытаеце вы. А дрэнна тое, што за тыдзень гэтага галасавання за скрыняй для галасавання ноччу ніхто не сочыць. Таксама вельмі развіты прымус галасаваць датэрмінова (перш за ўсё ў дачыненні да студэнтаў і вайскоўцаў), каб „зрабіць” патрэбны працэнт. На маім участку за тыдзень датэрміновага з 1 794 выбаршчыкаў прагаласавалі 341 (гэта значыць каля 20%)».

За час датэрміновага галасавання прадстаўнікі праекту «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка» заўважылі 10 выпадкаў прымусу да галасавання. Часам выбаршчыкі (часцей за ўсё студэнты) самі заяўлялі камісіі, што прыйшлі на ўчастак не па ўласным жаданні. Часам на ўчастках прысутнічалі куратары такіх груп, пераважна студэнтаў (на фота). А амаль кожны чацвёрты назіральнік фіксаваў галасаванне ў групах у час датэрміновага галасавання, што ўскосна сведчыць аб прымусе да галасавання.



# *Галасаванне ў асноўны дзень выбараў 23 верасня*





***Назіральніца Марына К.:***

«На ўчастку мы (чатыры назіральнікі) налічылі яўку ў 295 чалавек. Камісія ж сказала, што ў памяшканні ўчастка ў гэты дзень з'явіліся 670 чалавек. Вось такі разбег…»

У дзень асноўнага галасавання 23 верасня пачалі адбывацца яшчэ дзіўнейшыя рэчы. Назіральнікі на 90% участкаў, дзе прысутнічалі прадстаўнікі праекту, пачалі фіксаваць разыходжанні ў яўцы паміж уласнымі падлікамі і афіцыйнымі дадзенымі камісій.

Таксама назіральнікаў здзівіла нечакана высокая колькасць тых, хто вырашыў галасаваць дома. На адным з участкаў прадстаўнікі камісіі наведалі кватэры і хаты 226 чалавек за 2 гадзіны. Атрымліваецца, што на гэтым участку адзін чалавек паспяваў прагаласаваць у сярэднім за 30 секундаў.

У выніку лічбы выбарчых камісій і незалежных назіральнікаў разышліся на 73% (гл. графік).



# *Падлік галасоў*

**2. Ці былі вы дапушчаны да стала, за якім праводзіўся падлік галасоў?**




**3. Ці маглі вы бачыць змест бюлетэняў?**






***Назіральніца Лена П.:***

«Час лічыць галасы. Гэтая займальная працэдура прайшла за 15-20 хвілін, суправаджалася забаронай на фота, крыкамі на назіральнікаў і папярэджаннямі аб выключэнні з участку. У нейкі цудоўны момант падліку усе мае словы пачалі ігнаравацца камісіяй. Яны павярнуліся „тварам" да народа».

***Назіральнік Аляксей Ш.:***

«Пракантраляваць працэс падліку фактычна немагчыма, бо спосаб нідзе не прапісаны. Сябры камісіі традыцыйна лічаць адначасова кожны сваю частку, праз што ніхто акрамя старшыні і сакратара не ведае агульных вынікаў, а толькі тое, што палічыў сам. „Гэта хуткі і эфектыўны метад, мы так даўно працуем", – тлумачыць мне старшыня з досведам працы на апошніх трох выбарах».

***Назіральніца Марыя С.:***

«Лічылі класна, і мы ад душы змаглі наглядзецца на іх прыгожыя (хлушу, канешне ж) спіны і іншыя часткі цела. Праўда, бюлетэняў так амаль і не ўбачылі, але гэта ж не галоўнае? Выбары – гэта свята. На якім мы яўна лішнія. Усім дабранач і віншую, што гэты шалёны тыдзень скончыўся».

Любыя выбары непазбежна сканчаюцца падлікам галасоў. Аднак, як высвятляецца, падлік галасоў на беларускіх выбарах пабачыць не так лёгка. На 78% участкаў назіральнікі ў час падліку не маглі бачыць змест бюлетэня для галасавання. Бо найчасцей камісіі лічаць бюлетэні за 4-7 метраў ад назіральніка, надзейна схаваўшы стол з бюлетэнямі ад свету.

На здымках, што былі зробленыя назіральнікамі, відаць, як незалежныя назіральнікі звычайна бачаць падлік галасоў.

Праект «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка» прасоўвае ідэю незалежнага грамадзянскага назірання ў Беларусі і мае на мэце скарыстаць міжнародны досвед правядзення выбараў у Беларусі. Праект сумесна ажыццяўляюць Belarus Watch, Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт і Беларускі дом правоў чалавека ў выгнанні ў Вільні.

У час беларускіх парламенцкіх выбараў 2012 году прадстаўнікі праекту праводзілі маніторынг выбарчых працэдур на амаль 60 участках 35-і выбарчых акруг краіны.

**Болей інфармацыі**
**аб беларускіх выбарах**
**і дзейнасці назіральнікаў**
**можна знайсці**
**на старонцы праекту**
**www.eotp.info**

